# Голас Радзімы

№ 20 (2058)
19 мая 1988 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



У гэты майскі панядзелак, калі адзначаўся Дзень Перамогі, вуліцы і плошчы многіх гарадоў нашай краіны нібы ператварыліся ў агромністыя сцэны. На іх выступалі ўдзельнікі Усесаюзнага свята духавой музыкі. І не толькі яны. Музыкантаў змянялі танцоры, выходзілі на канцэртныя пляцоўкі фальклорныя ансамблі... Не стаў выключэннем і Мінск. (Заканчэнне фотарэпартажу аб тым, як праходзіла гэта свята ў беларускай сталіцы, змешчана на 8-й стар.).

Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

# У ПАШАНЕ СТАРАДАЎНІ ПРОМЫСЕЛ







**Беларускае вытворчае аб'яднанне мастацкай керамікі — адно з вядомых прадпрыемстваў рэспублікі. Яго прадукцыя—кафейныя і чайныя сервізы, камплекты кубкаў і бакалаў з пазалотай, наборы для напіткаў, шматлікія вазы і падарачныя сувеніры. Больш за 300 розных вырабаў выпускаецца тут сёння, прычым іх асартымент пастаянна абнаўляецца.**

**Попыт на кераміку расце, яна не залежваецца на складах і прылаўках магазінаў, а з ростам аб'ёмаў вытворчасці з'явілася магчымасць пастаўляць яе і на экспарт.**

**Калектыў аб'яднання ў асноўным маладзёжны. З захапленнем авалодваюць юнакі і дзяўчаты старадаўнім ганчарным промыслам. Вопытам, ведамі і майстэрствам з імі ахвотна дзеляцца старэйшыя. І хаця амаль усе тэхналагічныя працэсы механізаваныя, ганчары не абыходзяцца без творчага натхнення і фантазіі. Таму многія іх творы інакш, як чараўніцтвам, не назавеш.**

**НА ЗДЫМКАХ: з рабочай прафесіі на прамкамбінаце ў Радашковічах пачаў сваю працоўную дзейнасць 39 гадоў назад сённяшні генеральны дырэктар аб'яднання, заслужаны работнік прамысловасці БССР Я. ШАФІР; новы чайны набор «Бадзёрасць»; паспяхова працуе на ўчастку роспісу нядаўняя выпускніца Бабруйскага мастацкага вучылішча Таццяна КАНСТАНЦІНАВА.**

**Фота А. НІКАЛАЕВА.**

*ІНТЭРВ'Ю ДАЕ КАМПЕТЭНТНЫ СУБЯСЕДНІК*

# ТУРЫЗМ: СУЧАСНЫЯ АСПЕКТЫ РАЗВІЦЦЯ

**Сённяшняя наша сустрэча з генеральным дырэктарам нядаўна створанага абласнога турыстычна-экскурсійнага вытворчага аб'яднання «Мінсктурыст» Фёдарам САЛЯНІКАМ**

*— Фёдар Кандратавіч, папярэднік аб'яднання «Мінсктурыст» — бюро па турызму і экскурсіях — карыстаўся немалой папулярнасцю сярод насельніцтва. Што ж сабой уяўляе новая фірма?*

— Наша фірма — дзіця новага часу. А ён настойліва патрабаваў пашырыць і палепшыць турыстычна-экскурсійны адпачынак нашых людзей. У якасці эксперыменту было вырашана стварыць тры фірмы — у нас у Беларусі, у Краснадарскім краі і ў Валгаградскай вобласці.

Якія адбыліся змены? Напрыклад, у Мінскую абласную сістэму турыстычна-экскурсійнай службы ўваходзілі раней 14 розных арганізацый — гасцініцы, бюро падарожжаў, пункты пракату, турыстычныя клубы... Цяпер у фірме сем комплексаў—два ў Мінску, на возеры Нарач, «Нёман» на базе Стаўбцоўскага бюро падарожжаў і экскурсій і турбазы «Высокі бераг», Маладзечанскі, Барысаўскі і Салігорскі комплексы. Такім чынам, быў скарочаны на 20 працэнтаў адміністрацыйны апарат, а непасрэдная колькасць людзей, занятых у фірме сервісам, павялічылася.

Значна выраслі і нашы матэрыяльныя магчымасці. Так, з 1 студзеня 1988 года мы перайшлі на поўны гаспадарчы разлік.

Першыя месяцы работы ў новых умовах паказваюць, што справа ідзе няблага. З'яўляецца магчымасць арандаваць лепшыя гасцініцы, цеплаходы, самалёты, будаваць новыя базы. Немалаважна пры гэтым, што кошт пуцёвак на ўсе маршруты застаўся ранейшым.

*— У канцы красавіка мне давялося пабываць на кірмашы па продажы пуцёвак, які арганізавала ваша фірма. Уразіла, як многа людзей жадаюць правесці свой адпачынак у турыстычнай паездцы па краіне, у падарожжах па сваёй рэспубліцы. Скажыце, якое месца ў жыцці нашага сучасніка займаюць турызм і экскурсіі як від адпачынку?*

— Мне думаецца, што ў наш век гіпадынаміі толькі неразумны чалавек можа правесці свой адпачынак, лежачы на канапе ці седзячы ля тэлевізара. Карыснасць актыўнага адпачынку для здароўя нельга пераацаніць. Скажам, у паходзе, на турбазе чалавек мае магчымасць аднавіць свае сілы, атрымаць фізічную загартоўку, зарад энергіі і бадзёрасці. Актыўны адпачынак лепш за ўсялякія лекі. Акрамя гэтага, паездкі расшыраюць кругагляд, даюць магчымасць пазнаёміцца з іншымі народамі, іх культурай, выхоўваюць пачуцці патрыятызму і інтэрнацыяналізму. І тое, што на кірмашы (тут, дарэчы, было прададзена пуцёвак на суму 180 тысяч рублёў) было вельмі многа жадаючых набыць турыстычную пуцёўку, гаворыць якраз аб папулярнасці гэтага віду адпачынку. І, на мой погляд, павышае прэстыж фірмы.

*— А што, на ваш погляд, зніжае гэты прэстыж?*

— Перш за ўсё трэба гаварыць пра ўзровень сервісу. Пажадана, каб ён быў больш высокім. Вядома, ёсць маршруты, дзе турысты маюць пэўны камфорт: пражываюць у гасцініцах, на базах, дзе цудоўныя спартыўныя пляцоўкі, пункты пракату інвентару, харчуюцца ў рэстаранах, карыстаюцца спецыяльным транспартам. Але яшчэ вялікая колькасць турыстаў, асабліва тых, хто адпраўляецца на поўдзень краіны, пражывае ў арандаваных фірмай дамах і кватэрах прыватных асоб. І такі ўзровень абслугоўвання ніяк не можа задаволіць нашага чалавека. Матэрыяльную базу турызму трэба ўмацоўваць. Скажам, у нас на Міншчыне гэтаму пытанню якраз удзяляецца вялікая ўвага. У сталіцы будуецца яшчэ адна турыстычная гасцініца «Арбіта» на 630 месцаў. На возеры Нарач разам з летнімі домікамі працуюць камфартабельныя лясныя гасцініцы. Зацверджаны праекты новых гасцініц: на Нарачы і ў Маладзечне — на 300 месцаў кожная. Спецыялісты распрацоўваюць сетку так званых турыстычных «прытулкаў» у найбольш маляўнічых мясцінах рэспублікі, дзе пралягаюць пешыя маршруты. Тры такія «прытулкі» ўжо будуюцца. Два з іх на Нарачы. Дадам, што да нас, у Беларусь, з задавальненнем едуць турысты з усяго Саюза.

*— Возера Нарач — унікальнае стварэнне прыроды. Тут чыстая, празрыстая, як у крыніцы, вада. Навокал старажытныя дубровы. Настоенае на травах і смалістым водары паветра. Возера мае багатыя прыродныя рэсурсы для арганізацыі адпачынку і лячэння чалавека. Тутэйшыя мясціны, апетыя паэтамі, прываблівающь да сябе тысячы людзей. Але індустрыя адпачынку, якая інтэнсіўна развіваецца тут, відаць, тоіць у сабе небяспеку для прыроды і выклікае небеспадстаўную трывогу з боку грамадскасці...*

— Небяспека, я думаю, ёсць, хаця ў адносінах да аховы навакольнага асяроддзя ў раёне Нарачы прыняты самыя суровыя законы. Так, там забараняецца ездзіць на транспарце, лавіць у возеры вугра, які ўнесены ў Чырвоную кнігу. Адпаведныя службы сочаць за выкананнем законаў. Але закон гэты павінен быць у нас саміх.

На жаль, варварскія, бяздумныя, спажывецкія адносіны некаторых турыстаў — часцей неарганізаваных— да прыроды яшчэ сустракаюцца.

Я лічу, што будучыня Нарачы і іншых запаведных мясцін будзе залежаць і ад паводзін кожнага з нас, ад узроўню нашай дасведчанасці, грамадзянскай актыўнасці, культуры. Па існуючых правілах інструктар-метадыст, які адпраўляецца з групай турыстаў па нейкаму маршруту, абавязкова паказвае, як трэба правільна паліць касцёр, тушыць яго, наводзіць пасля прывалу належны парадак, не пакідаючы пасля сябе ні паперкі, ні бляшанкі, расказвае, як і калі збіраць ягады, лекавыя расліны. На нашых базах з лекцыямі пра жывёльны і раслінны свет Беларусі выступаюць аўтарытэтныя вучоныя.

*— Некаторыя краіны, як мы ведаем, жывуць, што называецца, з турызму. І там сістэма абслугоўвання кліентаў прадумана да дробязей. Усё да паслуг турыста. Зразумела, не за добрае слова, а за грошы. Скажам, зарубежныя турыстычныя арганізацыі прадугледжваюць розныя віды падарожжаў — туры сямейныя, маладзёжныя, для маладажонаў, для людзей пажылога ўзросту. Акрамя гэтага, чалавек можа ўзяць пуцёўку на любы тэрмін па свайму жаданню. А як у гэтым плане задавальняецца попыт нашага аматара падарожжаў?*

— Наша фірма, напрыклад, можа прапанаваць маршруты больш чым у 200 гарадоў Савецкай краіны, у Маскву і на Сахалін, па Волга-Балтыйскаму каналу і па гарах Закаўказзя... Словам, на любы густ. У нас таксама ёсць сямейныя, маладзёжныя туры. Папулярнасцю карыстаюцца туры выхаднога дня.

Для кожнай катэгорыі турыстаў распрацаваны адпаведныя маршруты. Напрыклад, мы можам прапанаваць водныя паходы на плытах па рэках, складаныя горныя пераходы, пешыя падарожжы ў розных кліматычных зонах. Нядаўна ў нас у Беларусі пачаў працаваць маршрут для дзяцей. Растлумачу: на тых базах, дзе бацькі адпачываюць з дзецьмі, камплектуюцца групы юных турыстаў 5-6, 7-8, 9-10 гадоў. Праграму адпачынку для іх мы прапануем разнастайную, насычаную. Трэнеры вучаць дзятву плаваць, ездзіць на веласіпедзе, арыентавацца на мясцовасці. Сямейны адпачынак на турбазах карыстаецца найбольшым попытам. Але задаволіць гэты попыт мы пакуль не маем магчымасці.

Збіраемся арганізаваць конны маршрут. Гэта будзе вельмі цікава.

*— Я чула, што фірма «Мінсктурыст» наладжвае дзелавыя кантакты з некаторымі сацыялістычнымі краінамі...*

— Ужо наладзілі. З Плоцкім ваяводствам падпісалі дагавор на абменныя турыстычныя групы. Жадаючыя на суботу і нядзелю могуць з'ездзіць у Польшчу. Распрацоўваем новы маршрут у ГДР. Гэта, думаю, толькі пачатак. Турызм можа садзейнічаць лепшаму ўзаемаразуменню народаў, наладжванню сяброўскіх адносін.

*— Вось вы казалі, што нядаўна перайшлі на новую сістэму гаспадарчага разліку, якая сябе апраўдвае. А што яшчэ новага ўнёс у арганізацыю турызму наш час?*

— Самае шырокае развіццё ў нас у краіне атрымлівае кааперацыя. Мы таксама вырашылі стварыць у фірме кааператыўнае фотаатэлье. Яно будзе забяспечваць сваімі паслугамі турыстаў на працягу ўсяго маршруту. А ў перспектыве думаем і пра кааператыў па вырабу сувеніраў. Кропку на гэтым не ставім. Трэба думаць, як зрабіць турызм самым папулярным відам адпачынку.

*— Вы з такім шчырым захапленнем і натхненнем расказваеце пра турызм, што я ўжо гатова ісці купляць пуцёўку, рыхтаваць сумку ў дарогу... Дарэчы, як вы адпачываеце самі?*

— Вы правільна заўважылі мае нераўнадушныя адносіны да турызму, увогуле да актыўнага адпачынку. І гэта прадыктавана не толькі маімі службовымі абавязкамі. Я сам заўзяты турыст, аматар падарожжаў. Аб'ездзіў усю краіну, уздоўж і ўпоперак абышоў Беларусь. Выдатна ведаю Міншчыну. Разам з сябрамі плаваў на плытах па беларускіх рэках. Уся мая сям'я прызвычаена менавіта да такога адпачынку. Мы любім лес, рэчку, росныя раніцы, ціхія паплавы. Няма лепшага адпачынку, чым у родных мясцінах.

**Гутарку вяла Таццяна АНТОНАВА.**

# ВМЕСТЕ СО СВОИМ НАРОДОМ

**На вопросы газеты «Голас Радзімы» отвечает Митрополит Минский и Белорусский ФИЛАРЕТ, Председатель отдела внешних церковных сношений Московского Патриархата.**

**— Видимо, мы не ошибемся, если скажем, что все Ваши помыслы и заботы сегодня направлены на подготовку к проведению 1000-летия введения христианства на Руси. Безусловно, это большое событие в жизни православной церкви. Но нам хотелось бы обратить Ваше внимание еще на одну дату, которая выпала тоже на этот юбилейный год — 70-летие ленинского декрета «Об отделении церкви от государства и школы от церкви». Как православная церковь относится к этому акту Советского правительства?**

— Следует заметить, что начало фактического отделения Церкви от государства было положено уже самим крушением российского самодержавия. В начале 1918 года, когда Совет Народных Комиссаров РСФСР принял декрет «Об отделении церкви от государства и школы от церкви», этому процессу был придан конституционный характер.

Декрет провозгласил светский характер государства, однако объявив религию частным делом граждан, отнюдь не был нацелен на искоренение религии. Наоборот, он признавал ее право на существование в новом обществе. Это был удар лишь по привилегиям Русской православной церкви, вытекавшим из ее статуса государственной религии Российской империи. Тем самым декрет поставил в равное положение все религии и религиозные организации, существовавшие в России.

Понятно, что, оказавшись в новой для себя социальной среде, Церковь должна была многое переосмыслить, пережить серьезную ломку и обновление. Но, утратив былые привилегии, она вместе с тем обрела возможность определить свою миссию в плане борьбы с такими проявлениями общественного зла, как социальная несправедливость, агрессивные войны, угнетение человека человеком, расовая дискриминация.

Историческое значение декрета, на наш взгляд, сегодня заключается в том, что он утвердил правовые основы и принципы долговременной политики Советского государства — политики союза с верующими гражданами в совместном строительстве новой жизни, подчинения мировоззренческих различий конструктивному сотрудничеству во имя главных целей. Опыт показал, что всякие отступления от демократических принципов в этой сфере, интерпретация мировоззренческих различий между марксизмом и религией в плане политической конфронтации, однозначное восприятие религии как политической оппозиции социализму наносят ущерб общепатриотическому делу.

**— Нашему зарубежному читателю, в большинстве своем некомпетентному в отношениях между церковью и социалистическим государством, между верующими и неверующими, а зачастую и просто предубежденному против Советского Союза, кажется, что религия и атеизм не могут мирно сосуществовать, что человек, посещающий церковь, у нас обязательно в чем-то ущемлен, даже преследуется. Так ли это?**

— Я уже коснулся политического аспекта этого вопроса. Говоря же о его практической стороне, считаю уместным подчеркнуть, что Русская православная церковь на протяжении минувшего тысячелетия всегда была вместе со своим народом, жертвенно разделяя с ним испытания и радости. Через всю историю она пронесла неповрежденной свою сокровищницу веры и ныне в новых исторических условиях неуклонно продолжает свое спасительное служение.

Для свободного осуществления своей пастырской миссии мы имеем все необходимое. В этом плане взаимоотношения нашей Церкви с государством, отношение к верующим в нашей стране я бы охарактеризовал на сегодняшний день как вполне нормальные.

Государство идет навстречу удовлетворению Церковью своих нужд, например, выделяет фонды на строительство и реставрацию храмов, предоставляет помещения, сырье для производства церковной утвари, бумагу и типографию для церковных изданий и т. д. Так, в ответ на просьбу Патриарха ПИМЕНА Советское правительство передало церкви в 1983 году древний Свято-Данилов монастырь в Москве, на территории которого создается ныне Духовно-административный центр Русской православной церкви. Недавно нам передано еще две обители: Оптина пустынь в Калужской епархии — один из центров духовной жизни России и Толгский монастырь в Ярославской епархии, в котором будут проживать престарелые священнослужители, нуждающиеся в заботе и уходе.

Эти и многие другие факты нашего бытия убедительно свидетельствуют о необъективности утверждений о притеснении Церкви в нашей стране. Безусловно, отдельные случаи нарушения прав верующих случаются, но это не является отражением политики государства в отношении Церкви. Как правило, это является следствием отступления от законодательства отдельными лицами или местными органами власти.

Задачу контроля за соблюдением религиозного законодательства выполняет Совет по делам религий при Совете Министров СССР, он же осуществляет связь между Церковью и государством. Между нами сложились отношения сотрудничества. Мы неизменно встречаем со стороны Совета по делам религий понимание и поддержку.

Что касается сотрудничества между верующими и атеистами, хотел бы прежде всего отметить, что от государства отделена Церковь как общество, но не члены Церкви, которые являются полноправными гражданами нашей страны и на общих основаниях принимают участие в различных сторонах ее жизни.

Ныне наше Отечество переживает время решительных исторических перемен. Понятно, что Русская православная церковь не может оставаться в стороне от свершающихся судеб народа и всем сердцем поддерживает силы обновления. Церковь благословляет мирный созидательный труд советских людей и свою пастырскую деятельность во многом посвящает воспитанию гражданской активности и ответственности чад Русской православной церкви, их добросовестного отношения к труду, неуклонного следования высоким этическим нормам в личной и общественной жизни. Она стремится помочь каждому исполнить его высокое предназначение «искать того, что служит миру и ко взаимному назиданию» (Рим. 14, 19). В этом плане Церковь, несомненно, вносит свой вклад в создание здорового морально-психологического климата в религиозной части советского общества. Именно поэтому, как религиозные люди, мы особо отмечаем то высокое предназначение, какое отводится нравственности в новой системе ориентаций, то, что в центре обновленной системы ценностей утверждается человек как социально активная личность, открытая к восприятию и созиданию великих духовных ценностей.



**— Как готовится к празднованию 1000-летия введения христианства на Руси Русская православная церковь в нашей стране вообще и в Белоруссии — в частности? Как относятся к этому общественность и официальные власти?**

— Мы считаем, что приближающееся торжество нашей Церкви должно стать праздником благоговейного памятования наших историков, т. е. «откуда есть пошла Русская земля». Благодарное памятование наших великих предков, созидавших великую и свободную Русь, ставшую колыбелью братства русского, украинского и белорусского народов, связанных неразрывными узами единства веры и единства исторических судеб,—наш прямой долг.

Принимая во внимание то важное значение, какое Русская православная церковь имела на протяжении веков во многих областях жизни и деятельности нашего государства, предстоящее празднование представляется нам как важное церковно-общественное событие, которое должно получить и высокое гражданско-патриотическое звучание. Сегодня, в преддверии юбилея, можно с полной уверенностью говорить, что такой точки зрения придерживаются самые широкие круги советской общественности. Понимание значения грядущего события мы встречаем и со стороны представителей официальной власти. Во многом благодаря и их содействию, подготовка к юбилею ныне близка к своему завершению. Сегодня можно, не колеблясь, сказать, что намеченный круг юбилейных мероприятий сделает предстоящее торжество значительным событием как в истории нашей Церкви, так и в жизни страны.

Среди важнейших мероприятий, осуществляемых в ознаменование предстоящего события, я бы особо отметил реставрацию упоминавшегося мною древнего Московского Данилова монастыря. Работы по восстановлению этого уникального памятника архитектуры XIII века заканчиваются. Здесь уже восстановлен мужской монастырь, братство которого постепенно пополняется. Уставно проходит литургическая жизнь обители. На прилегающей территории ведется строительство гостиницы и Конференц-центра, завершается реставрация храма Воскресения Словущего.

Подготовка к юбилею осуществляется во всех епархиях нашей Церкви. Так, руководство Минской епархии занимается подготовкой программы проведения юбилейных торжеств в Белоруссии. С этой целью реставрируются и украшаются храмы, все приводится в нарядный, праздничный вид. Изготавливаются новые облачения, церковная утварь, иконы. Например, в связи с установлением нового праздника в честь Собора белорусских святых, который отныне совершается в Неделю третью по Пятидесятнице, то есть Троице, современными иконописцами написана икона белорусских святых. Этому празднику составлено специальное богослужение. Осуществлена запись хора Кафедрального собора и изданы на фирме «Мелодия» два диска: «Похвала белорусским святым».

Тема 1000-летия Крещения Руси вошла и в программы наших духовных школ. Она проходит в богословских исторических исследованиях, в выпускных кандидатских и дипломных сочинениях, на годичных актах и вечерах и т. д. Профессора, преподаватели и учащиеся готовятся принять деятельное участие в самих юбилейных торжествах.

В праздновании примут участие представители всех наших епархий, а также гости из братских Поместных Церквей, инославных Церквей, различных международных и региональных религиозных и общественных организаций.

Важным моментом празднования явится проведение в Троице-Сергиевой Лавре с 6 по 9 июня сего года Поместного Собора, посвященного знаменательному юбилею, а также и торжественный акт с приглашением представителей советской общественности, который состоится в Большом театре столицы. Затем празднование переместится в Киев, Владимир и Ленинград, бывшие в прошлые эпохи историческими центрами Русского Православия и далее — распространится по всем епархиям.

**— Советский народ высоко ценит миротворческую деятельность Русской православной церкви. Какими Вы видите дальнейшие усилия ее в поддержке миролюбивой политики Советского государства?**

— Действительно, Русская православная церковь стояла у истоков религиозного миротворчества, была одним из основателей Советского комитета защиты мира, Советского фонда мира, Всемирного Совета Мира. И ныне она остается деятельной участницей движения за мир и в пределах Отечества, и за его рубежами.

Формы осуществления миротворческого служения Русской православной церкви в настоящее время весьма многообразны. Внешне самой простой, но глубоко действенной и никогда не ослабевающей является богослужение с проповедью. В Уставе нашей Церкви нет такого богослужения, в котором бы не содержалось молитв «о мире всего мира». Нет, по существу, и таких проповедей и архипастырских посланий, в которых бы в том или ином виде, прямо или косвенно, христианин не призывался к стяжанию внутреннего мира, мира с ближним, мира в коллективе, в обществе, между нациями и народами. Эта богослужебно-проповедническая деятельность, в которой само слово «мир» иногда даже прямо и не произносится, создает в верующих самое сильное и самое главное для дела мира — атмосферу активной устремленности к миру, его сохранению и умножению.

Основной формой участия Церкви в борьбе за укрепление мира на будущее остается ее деятельность в лице своих представителей, в различных общественных организациях в Советском Союзе, занимающихся вопросами мира и сотрудничества между народами, а также в соответствующих международных христианских и общерелигиозных объединениях и движениях. Этим участием Русская православная церковь не только поддерживает те или иные миротворческие организации и их деятельность на благо мира, но и утверждает в жизни один из великих принципов современности — солидарность всех сил и людей доброй воли, независимо от их мировоззренческой, политической, расовой, национальной и культурной принадлежности в борьбе за безъядерный мир, за спасение священного дара жизни.

За одним из богослужений Святейший Патриарх Пимен в слове к своей пастве сказал: «Исполненная многовекового опыта миротворческого служения, верная своему долгу различать знамения времени (Мф, 16, 3), наша Церковь свидетельствует беспромедлительной необходимость избавления человечества от ядерного оружия и призывает народ Божий добиваться этой великой цели. Любые шаги, любые усилия в этом направлении благословенны».

И мы, сыны и дочери нашей Матери-Церкви, укрепляемые всесильной помощью Божией, не ослабим своих усилий, обращенных на всестороннее развитие любимой Родины, на создание мира во всем мире.

## НАША МЕСЦА Ў ЗНЕШНІМ СВЕЦЕ

# ДЫПЛАМАТЫЯ БЕЛАРУСІ

**Анатоль ГУРЫНОВІЧ,**
**міністр замежных спраў Беларускай ССР**

**[Заканчэнне. Пачатак у № 19].**

Прадстаўнікі Беларускай ССР актыўна ўдзельнічаюць у гэтай рабоце і падтрымліваюць рознабаковыя кантакты з дэлегацыямі іншых краін, акрамя тых, якія незаконна займаюць месца ў ААН і яе органах.

Няма міжнародных пытанняў, якія былі б абыякавыя для Беларускай ССР, нават у тых выпадках, калі яны маюць асобую цікавасць для іншых народаў ці аддаленых рэгіёнаў. Мы заўсёды стаім на пазіцыі іх справядлівага вырашэння. Але ёсць і міжнародныя праблемы, у разглядзе якіх Беларуская ССР праяўляе ініцыятыву і асаблівую актыўнасць.

На працягу многіх перыядаў сваёй гісторыі Беларусь была арэнай жорсткіх ваенных сутыкненняў і — аж да 1917 года — аб'ектам нацыянальнага прыгнёту. Таму асабліва востра мы змагаемся за рашэнні, якія спыняюць злачынствы супраць народаў, якія забяспечваюць раўнапраўныя ўмовы для іх мірнага жыцця і супрацоўніцтва. Па зразумелых прычынах першай прапановай БССР у ААН быў унесены ёю праект рэзалюцыі на першай сесіі Генеральнай Асамблеі ААН у 1946 годзе аб выдачы і пакаранні ваенных злачынцаў. Ён быў прыняты. Але на гэтым мы не супакоіліся. І, магчыма, гэта адна з рысаў нашага нацыянальнага характару. На 23-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН была адобрана Канвенцыя аб непрымянімасці тэрміну даўнасці да ваенных злачынцаў і злачынстваў супраць чалавецтва. БССР—удзельніца гэтай канвенцыі. Пасля шматгадовых намаганняў дэлегацыі БССР на 28-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН былі зацверджаны Прынцыпы міжнароднага супрацоўніцтва ў адносінах выяўлення, арышту, выдачы і пакарання асоб, вінаватых у ваенных злачынствах і злачынствах супраць чалавецтва. На гэтай жа сесіі была адобрана Міжнародная канвенцыя аб спыненні злачынстваў апартэіду і пакаранні за яго. БССР — удзельніца і гэтай канвенцыі. На 29-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН пры актыўным удзеле БССР было зацверджана Вызначэнне агрэсіі.

На 32-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН па прапанове БССР прынята рэзалюцыя аб ахове асоб, якія затрыманы ці знаходзяцца ў зняволенні за іх барацьбу супраць апартэіду, расізму і расавай дыскрымінацыі, каланіялізму, агрэсіі і замежнай акупацыі і за самавызначэнне, незалежнасць, а таксама сацыяльны прагрэс іх народаў. Баларуская ССР з'яўляецца актыўным прыхільнікам прыняцця ААН рэзалюцый па барацьбе з нацызмам, фашызмам і неафашызмам, каланіялізмам, апартэідам, расізмам, наёмніцтвам, злачынствамі генацыду, а таксама дакументаў, звязаных з распрацоўкай Кодэкса злачынстваў супраць свету і бяспекі чалавецтва.

Хацелася б адзначыць, што Беларусь спакон веку славілася сваімі спецыялістамі, якую б работу яны ні выконвалі. Гэта тычыцца і людзей, якія прысвяцілі сябе дыпламатычнай рабоце. Многа дыпламатаў-беларусаў працуюць у Міністэрстве замежных спраў СССР у Маскве, у савецкіх пасольствах, гандлёвых прадстаўніцтвах, консульствах. Можа быць, нешта дае сама беларуская зямля, яе паветра? Спакойны, роўны, грунтоўны характар, гумар, вытрымка — гэта якраз тыя рысы, якія так патрэбны работнікам знешнепалітычнага напрамку.

На 42-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН дэлегацыя БССР уваходзіла ў лік аўтараў мемарандума і прынятай разгорнутай рэзалюцыі, прапанаванай дзесяццю сацыялістычнымі дзяржавамі, аб усеабдымнай сістэме міжнароднага міру і бяспекі. У гэтай рэзалюцыі прызнаюцца неабходнасць новага палітычнага мыслення, прыярытэтнасць агульначалавечых каштоўнасцей і сфакусіраваны падыходы да забеспячэння надзейнай бяспекі для кожнай дзяржавы і для ўсіх дзяржаў на падставе Статута ААН і канструктыўных сумесных намаганняў усіх без выключэння ўдзельнікаў міжнародных адносін у ваеннай, палітычнай, эканамічнай, экалагічнай, гуманітарнай і іншых галінах міждзяржаўных адносін, з тым каб на базе міжнароднага права і практычных мер гарантаваць усеабдымную бяспеку на роўнай аснове для ўсіх.

Беларуская ССР усведамляе вечную значнасць навукова-тэхнічнага прагрэсу для дабрабыту ўсіх народаў, але адначасова з трывогай ставіцца да магчымасці злоўжывання плёнам навукова-тэхнічнай рэвалюцыі ў агрэсіўных і іншых нядобрых мэтах. У гэтай сувязі па ініцыятыве яе дэлегацый прыняты рэзалюцыі аб забароне распрацоўкі і вытворчасці новых відаў зброі масавага знішчэння і новых сістэм такой зброі, аб правах чалавека і навукова-тэхнічным прагрэсе, іншыя дакументы.

Наша рэспубліка была ў ліку сааўтараў 29 іншых прынятых на 42-й сесіі Генеральнай Асамблеі рэзалюцый, у тым ліку па пытаннях ядзернага, хімічнага раззбраення, забароны іншых відаў зброі, па пытаннях умацавання мер даверу, рэзалюцыі аб правядзенні Тыдня дзеянняў за раззбраенне і сусветнай кампаніі за раззбраенне, рэзалюцый па пытаннях дэкаланізацыі, па барацьбе з апартэідам, аб праве народаў на жыццё ва ўмовах міру і інш.

Вялікая ўвага ў рэспубліцы надаецца ўдзелу ў рабоце міжурадавых органаў сістэмы ААН, якія займаюцца эканамічнымі, гандлёвымі, навуковымі, тэхнічнымі, культурнымі і іншымі пытаннямі, цікавымі з пункту гледжання супрацоўніцтва з народамі іншых краін. Дэлегацыі рэспублікі імкнуцца да таго, каб праграмы дзейнасці гэтых органаў, іх аналітычныя даследаванні садзейнічалі абмену вопытам на раўнапраўнай і ўзаемавыгаднай аснове. Пры гэтым мы шчодра дзелімся сваім вопытам: і аб тым, што зроблена, і аб тым, як гэта было дасягнута. У гэтых жа мэтах у рэспубліцы наладжаны выпуск літаратуры і іншых даведачна-інфармацыйных матэрыялаў аб БССР на замежных мовах.

Сёння Беларусь — гэта рэспубліка з сучаснай шматгаліновай індустрыяй, з высокаразвітым машынабудаваннем, хіміяй, прыборабудаваннем, электронікай і галінамі, якія задавальняюць штодзённыя патрэбы насельніцтва. Беларусы з аптымізмам глядзяць у будучыню. Пастаўленая рашэннямі XXVII з'езда КПСС задача падвоіць к канцу стагоддзя нацыянальны даход і вытворчы патэнцыял, забяспечыць кожнага жыхара жыллём пасільная і рэальная. Аб усім гэтым мы з гордасцю за нашу Радзіму гаворым з трыбун міжнародных форумаў, паказваючы перавагі сацыялізму і вынікі стваральнай працы, якія сталі магчымымі дзякуючы брацкаму супрацоўніцтву народаў Краіны Саветаў.

У якасці нагляднага прыкладу супрацоўніцтва з міжурадавымі арганізацыямі можна прывесці развіццё сувязей па лініі ЮНЕСКО. Праз гэтую міжнародную арганізацыю БССР мае магчымасць атрымліваць стыпендыі для накіравання на стажыроўкі нашых спецыялістаў розных прафесій, шырока знаёміць сусветную суполку з лепшымі вынікамі беларускай народнай і сучаснай культуры і думкі. Так, ЮНЕСКО апублікавала даследаванне аб палітыцы БССР у галіне культуры, анталогіі беларускай паэзіі і апавядання, манаграфію аб беларускім першадрукары, асветніку і гуманісце Ф. Скарыне, народных пісьменніках Я. Купале і Я. Коласе і іншых вядомых дзеячах Беларусі, выпусціла грампласцінку фальклорных беларускіх мелодый.

У Эканамічнай камісіі ААН для Еўропы для ўсіх дзяржаў-членаў маюцца значныя магчымасці расшырэння гандлёвага, эканамічнага, навукова-тэхнічнага і іншага супрацоўніцтва з належным улікам вынікаў форумаў у рамках агульнаеўрапейскага працэсу, закладзенага хельсінкскай Нарадай па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе.

У апошнія гады ідзе актыўны працэс наладжвання і развіцця сувязей і супрацоўніцтва Беларускай ССР з замежнымі партнёрамі. І тут тое-сёе робіць і геаграфія. Паглядзіце на карту: размяшчэнне нашай рэспублікі ўнікальнае. Праз яе тэрыторыю практычна праходзіць дарога і ва Усходнюю, і ў Заходнюю Еўропу.

Паспяхова развіваюцца сувязі партыйных, парламенцкіх, дзяржаўных, гаспадарчых, навуковых, культурных і грамадскіх органаў БССР з дзяржавамі сацыялістычнай садружнасці і іншымі краінамі. Гэта і пастаянныя дружалюбныя сустрэчы, і абмен дэлегацыямі, і прамыя вытворчыя сувязі, і іншыя формы плённага супрацоўніцтва. Так, партыйныя камітэты Камуністычнай партыі Беларусі супрацоўнічаюць на розных узроўнях з адпаведнымі партыйнымі камітэтамі Балгарскай камуністычнай партыі, Сацыялістычнай адзінай партыі Германіі, Польскай аб'яднанай рабочай партыі і Камуністычнай партыі Чэхаславакіі, а сёлета да іх дабаўляюцца партыйныя камітэты Камуністычнай партыі В'етнама.

Сталі таксама рэгулярнымі абмены дэлегацыямі ЦК КПБ з Ніжнеаўстрыйскай зямельнай арганізацыяй Камуністычнай партыі Аўстрыі, а Мінскага АК КПБ —з акруговым камітэтам Германскай кампартыі зямлі Бадэн-Вюртэмберг.

Беларуская ССР падтрымлівае пастаянныя сувязі па парламенцкай і ўрадавай лініях з Сацыялістычнай Рэспублікай Славеніі (СФРЮ). Акрамя таго, прафсаюзы БССР супрацоўнічаюць з прафсаюзамі Сацыялістычнай Рэспублікі Сербіі, а камсамол Беларусі — з маладзёжнымі арганізацыямі Сацыялістычнай Рэспублікі Харвацыі. Наладжаны сувязі з асацыяцыяй муніцыпалітэтаў Эквадора, а Мінская і Гродзенская вобласці супрацоўнічаюць з афганскімі правінцыямі К[illegible] і Лагман. Намячаюцца сувязі з бразільскім штатам Парана. Далейшае развіццё атрымлівае міжнародны турызм.

Больш за 60 год ажыццяўляе сваю дзейнасць Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі, якое падтрымлівае і развівае сувязі з 326 арганізацыямі ў 73 краінах. Летась у рэспубліцы былі ажыццёўлены мерапрыемствы, звязаныя з правядзеннем у СССР VI антываеннай сустрэчы прадстаўнікоў савецкай і японскай грамадскасці, Дзён Іспаніі ў СССР, савецка-фінляндскага семінара па сацыяльных пытаннях, семінара на тэму «Мір і раззбраенне» для турыстычнай групы з Заходняга Берліна і інш. Рознабаковыя і комплексныя мерапрыемствы праведзены ў замежных краінах, у тым ліку Дні СССР на прыкладзе Беларускай ССР у Індыі, Ісландыі і ФРГ.

Вядзецца работа па наладжванню і падтрыманню сувязей з суайчыннікамі за мяжой. Адзінаццаць гарадоў БССР падтрымліваюць партнёрскія сувязі з 17 гарадамі дзесяці замежных краін.

Цяпер гутарка ідзе аб тым, як надаць усім гэтым сувязям і кантактам больш мэтанакіраваны характар, увязаць іх з перабудовай, якая ажыццяўляецца ў краіне пасля красавіцкага (1985 года) Пленума ЦК КПСС, дэмакратызацыяй усіх бакоў жыцця, публічнасцю.

Тое-сёе ўжо зроблена. Беларуская ССР і раней актыўна ўдзельнічала ў міжнародным гандлёвым абмене праз агульнасаюзныя знешнегандлёвыя органы, а таксама пры дапамозе прыгранічнага гандлю. Тавары з БССР пастаўляліся больш чым у 100 краін свету, нямала замежных тавараў паступала і ў рэспубліку. Цяпер для расшырэння і ўдасканалення гэтай дзейнасці створана рэспубліканскае гаспадарчаразліковае аб'яднанне «Беларусінгандаль», 80 вытворчых калектываў наладзілі прамыя вытворчыя сувязі з замежнымі партнёрамі, а на 8 буйных прамысловых прадпрыемствах створаны гаспадарчаразліковыя знешнегандлёвыя фірмы. Ставяцца задачы шырэй выкарыстоўваць партнёрскія сувязі абласцей і гарадоў не толькі для абмену вопытам, азнаямленчых, інфармацыйных, культурных і іншых традыцыйных форм кантактаў, але і для наладжвання і выкарыстання магчымасцей прамых вытворчых сувязей ва ўзаемных інтарэсах і для агульнай выгады.

Значная ўвага ўдзяляецца супрацоўніцтву ў навуковай галіне. Гэта ж будучы навукова-тэхнічны прагрэс для ўсіх удзельнікаў такіх сувязей.

Беларуская ССР дзеліцца сваім вопытам і навукова-педагагічным патэнцыялам. У вышэйшых навучальных установах і тэхнікумах БССР на сёння вучыцца больш за 5,6 тысячы замежных студэнтаў. Многія замежныя спецыялісты праходзяць падрыхтоўку ў прафтэхвучылішчах, на прадпрыемствах, у калгасах, навуковых установах і іншых арганізацыях Беларускай ССР.

Расшыраюцца кантакты і ў галіне культуры. У 1987 годзе прадстаўнікі беларускага мастацтва наведалі з гастрольнымі паездкамі 26 краін. Гэта сацыялістычныя дзяржавы, а таксама Індыя, Егіпет, Таіланд, Францыя, ФРГ. У сваю чаргу, у БССР пабывалі прадстаўнікі мастацтва з 18 замежных дзяржаў, у тым ліку 7 сацыялістычных і 11 капіталістычных краін.

Ці ўсё ідзе добра ў развіцці розных кантактаў рэспублікі з замежнымі партнёрамі, ці выкарыстаны ўсе патэнцыяльныя магчымасці? На жаль, не. Трэба больш і лепш. Не заўсёды назіраецца сістэмнасць у рабоце, мае месца дубліраванне і адначасова яшчэ засталіся неахопленыя сферы, матэрыяльная база часам не адпавядае патрэбам і жаданням, недастатковыя веды і вопыт у такой рабоце, слаба пастаўлена справа рэкламы, вывучэння і ўліку канкрэтнага становішча спраў у замежнага партнёра, недастаткова шырокі пералік даведачных матэрыялаў на шэрагу замежных моў аб магчымасцях рэспублікі, адчуваецца няхватка новых тэхнічных сродкаў для інфармацыйнай работы, ёсць і некаторыя іншыя недапрацоўкі. Пошуку і ўкараненню адэкватных падыходаў да вырашэння ўзнікаючых пытанняў сёння ўдзяляецца першаступенная ўвага. А што тычыцца сувязей з ПНР і ГДР, то ў даным выпадку рознабакова выкарыстоўваюцца магчымасці іх вырашэння ва ўзаемадзеянні з генеральнымі консульствамі гэтых краін у Мінску.

Справы знешнія нязменна звязаны са справамі ўнутранымі. Таму што працэсы перабудовы ў абедзвюх сферах узаемна ўзбагачаюць і развіваюць адзін аднаго. Акрамя таго, блізкі і ўнутраны іх стрыжань: агульных мэт можна дасягнуць толькі агульнымі зацікаўленымі намаганнямі. Дарэчы, удзел усё большай колькасці рэспубліканскіх ведамстваў і арганізацый у міжнародных сувязях патрабуе тактычнай і кваліфікаванай каардынацыі іх у агульным ходзе, што адпавядае мэтам перабудовы.

У рэспубліцы гасцінна прымаюць замежныя дэлегацыі, замежных прадстаўнікоў, журналістаў, турыстаў. Гэта магчымасць лепш даведацца і зразумець адзін аднаго, пазнаёміць іх з тым, як ажыццяўляецца ўнутраная і знешняя палітыка Савецкай дзяржавы, як ідуць перабудова, развіццё працэсу дэмакратызацыі ўсіх бакоў жыцця савецкага грамадства, выявіць новыя напрамкі для ўзаемных сувязей.

У рабоце МЗС БССР значна ўзрос аб'ём консульскай і пашпартна-візавай работы (напрыклад, у 1987 годзе колькасць выданых замежных пашпартоў павялічылася ў 6 разоў) , што з'ўляецца сведчаннем расшырэння сувязей рэспублікі з іншымі краінамі.

Знешнепалітычнай дзейнасці Беларускай ССР уласцівы паслядоўнасць і прынцыповасць, нецярпімасць да несправядлівасці, а адпаведна і аргументаваны дзелавы адпор тым, хто падмяняе прынцыпы супрацоўніцтва канфрантацыяй і нападкамі. Мы імкнёмся стварыць для рэспублікі аўтарытэт надзейнага партнёра ў эканамічных, навуковых, культурных і іншых сувязях з замежнымі партнёрамі, забяспечыць умовы, пры якіх ні бюракрат, ні валакітчык не мелі б магчымасці перашкодзіць гэтаму.

Намаганні беларускай дыпламатыі падпарадкаваны актыўнаму ўдзелу ў ажыццяўленні галоўных мэт і напрамкаў міжнароднай палітыкі КПСС і Савецкай дзяржавы. Трэба яшчэ многае зрабіць для таго, каб яшчэ больш нарошчваць рэальны ўклад па ўсіх напрамках у справу ўмацавання міжнароднага міру і бяспекі, інтэрнацыяналізацыі міжнародных адносін на базе новага палітычнага мыслення, развіцця рознабаковага міжнароднага супрацоўніцтва, выкарыстання ўмоў, якія ствараюцца перабудовай, для расшырэння ўзаемавыгадных сувязей і кантактаў з іншымі краінамі.

*З ГІТАРАЙ І З ЖАЛЕЙКАЙ*

# БЕЗ РАДЗІМЫ НЕ ПЕЦЬ І НЕ ЖЫЦЬ

Спявацъ Надзея любіла яшчэ ў дзяцінстве, і таму не выпадкова, калі перад ёю паўстала пытанне аб выбары прафесіі, яна вырашыла стаць настаўніцай спеваў у школе і паступіла ў Гродзенскае музычна-педагагічнае вучылішча. Акрамя заняткаў спевамі, ігры на акардэоне, Надзя самастойна авалодала гітарай. А неўзабаве стварыла жаночы ансамбль, у складзе якога былі гітара, бас-гітара, клавішныя і ўдарныя інструменты і салістка-вакалістка. Сама Надзея Мікуліч у ансамблі іграла на рытм-гітары.



Дзяўчаты пачалі выступаць з канцэртнай праграмай на вечарах у вучылішчы, а затым і на гарадскіх сцэнах. Іх заўважылі. У 1971 годзе Надзю запрасілі ў свой калектыў пачынаючыя тады «Верасы». Аднак, хоць прапанова і была заманлівая, Надзя адмовілася, таму што трэба было яшчэ цэлы год вучыцца. Але «Верасы» ўпарта чакалі «сваю» спявачку. І вось нарэшце дзяўчына—на прафесійнай сцэне.

У 1975 годзе ансамбль адпраўляецца на міжнародны фестываль палітычнай песні ў Фінляндыю, у якім павінны былі прыняць удзел вядучыя выканаўцы і калектывы з многіх краін свету. На гэтым прадстаўнічым форуме Надзея Мікуліч пакарыла ўсіх выкананнем песень на іспанскай мове вядомага чылійскага спевака Віктара Хара, які загінуў ад рук хунты.

Работа ў ансамблі ішла даволі плённа і паспяхова, але Надзя часта ловіла сябе на думцы, што ёй хочацца застацца на сцэне сам-насам з гледачамі. Спяваць для іх і іграць на гітары. Рашэнне выспела, але яму не суджана было ажыццявіцца адразу: у 1980 годзе пасля нараджэння дачкі Надзя раптоўна страціла голас. Прыгавор урачоў быў катэгарычны і суровы. Лаканічны дыягназ аб незмыканні звязак, адчай, што больш ніколі не зможа дарыць слухачам свае песні, не зламалі яе. «Безнадзейнай» спявачкай заняліся педагогі-вакалісты Белдзяржфілармоніі. І вось лёс яе ўзнагародзіў: Надзя зноў набыла голас, але празрысты верхні рэгістр прапаў назаўсёды, хаця тэмбр дыяпазону, які застаўся, стаў больш каларытным і аб'ёмным.

1983 год быў для выканаўцы напружаным: перад ёю стаяла складаная задача — трапіць у лік удзельнікаў Усесаюзнага конкурсу артыстаў эстрады. Праца і талент дапамаглі Надзі вытрымаць конкурсную барацьбу, і яна аказалася ў васьмёрцы лепшых. Была адзначана таксама і спецыяльным прызам радыёстанцыі «Юнацтва» за апрацоўкі народных песень «Рэчанька» і «Мой міленькі захварэў».

Пасля конкурсу зноў гастрольныя паездкі, выступленні з ансамблямі «Сіняя птушка», «Арыель». Даволі нечакана Надзя «ўг[illegible]ася» ў канцэртныя праг[illegible]і беларускай рок-групы «Сузор'е», дзе яна спявала свае песні ў стылі «кантры». Моладзь, якая прыходзіла на выступленні рок-ансамбля, пасля сінтэзатараў, [illegible]гітар, ударных інструмент[illegible]усім нечакана для сябе ад[illegible]вала прыгажосць задушэўнай песні пад мяккі, меладычны гітарны акампанемент і цёплае гучанне беларускай дудачкі.

— Я не люблю запісваць свае канцэртныя праграмы на тэлебачанні, —прызнаецца Надзея Мікуліч. — Тэлекамера не дае мне магчымасць мець «зваротную сувязь». На сваіх канцэртах я заўсёды хачу бачыць жывыя вочы слухачоў, улоўліваць рэакцыю аўдыторыі на тую ці іншую песню. Тады я магу аналізаваць свае праграмы, ацэньваць падабраны рэпертуар, вызначаць для сябе выканальніцкія і творчыя задачы. Акрамя канцэртных выступленняў, асабліва цаню творчыя сустрэчы, у час якіх магу свабодна размаўляць з аўдыторыяй. Яркі след у душы пакінулі выступленні перад патрабавальнай публікай у канцэртнай зале «Алімпійская» ў Маскве, канцэрты ў Ніжнявартаўску ў Сібіры, дзе на буравых вышках нясуць нялёгкую працоўную вахту нашы землякі. Канцэрты ў пасёлках беларускіх нафтавікоў Брэсцкі Мінскі, Гомельскі і іншых.

Песні Надзеі Мікуліч чакаюць з нецярпеннем у вёсках роднай Беларусі. Мне давялося ў гэтым пераканацца, пабываўшы на надаўнім канцэрце артысткі ў калгасе імя Ульянава Уздзенскага раёна.

...У зале Дома культуры ішла размова аб набалелых праблемах і поспехах сельскіх працаўнікоў — праўленне калгаса, радавыя калгаснікі рабілі справаздачу аб рабоце за год і абмяркоўвалі далейшыя шляхі развіцця сваёй гаспадаркі. Надзя, якая стала міжвольным сведкам гэтай размовы, яшчэ больш натхнілася: яна разумела, што пасля такога напружанага працоўнага года і напярэдадні пасяўной яе песні павінны гучаць як шчырая падзяка сялянам за іх нялёгкую працу... У фае загучалі пераборы гітары, і Надзя пачала распяваць на сваёй песні «Мядзведзь», нядаўна напісанай на вершы Н. Тулупавай. З першай песні «Я вярнуся» Э. Зарыцкага з залай быў устаноўлены кантакт.

Канцэрт быў вячэрні, многія калгаснікі прыйшлі ў Дом культуры з дзецьмі. І пасля адной з чарговых песень Надзя, што называецца, з ходу, пад гарачыя апладысменты выканала ўласную песню на вершы Р. Раждзественскага «Песенька пра цікаўнага шчанюка», у якой удала спалучаюцца гумар і прыём жартаўлівага дыялога. Гэтую песню, як прызналася Надзя слухачам, яна напісала для сваёй дачушкі і для ўсіх малышоў.

Надзя спявае не толькі аўтарскія песні, але ўключае ў рэпертуар і свае апрацоўкі беларускіх народных песень. Іх чакалі з нецярпеннем. Удзячнымі апладысментамі была сустрэта песня «Сумую па табе», напісаная спявачкай на вершы А. Ставера. Самую бурную рэакцыю залы выклікала песня «Мой міленькі захварэў» (кісялёчка захацеў»). Слухачы падпявалі і пляскалі рукамі ў такт. Песня «А ў цёмным лесе», якая выконваецца як дыялог паміж мужам і жонкай, выклікала дружны смех. Дададзім, што ў плане інструментоўкі выканаўцай удала былі выкарыстаны адначасова з гітарным суправаджэннем губны гармонік, а затым і дудачка.

Доўга ўдзячныя слухачы не адпускалі са сцэны любімую спявачку. «Такія канцэрты нам проста неабходныя, — [illegible]азала бухгалтар калгаса [illegible] Урбан. —Усе мы, вядома, маем магчымасць паслухаць любімага артыста ці выканаўцу па радыё, паглядзець па тэлевізары, убачыць у кіно. Але сустрэча з ім у сваім Доме культур[illegible]акідае незабыўнае ўраж[illegible]е».

Надзея Мікуліч ведае, што кожнае выступленне — гэта і новая прыступка да вяршыні выканаўчага майстэрства, і экзамен, дзе можна заваяваць ці страціць сімпатыі слухачоў. «Я хачу, — прызнаецца яна, — паспрабаваць сябе ва ўсіх жанрах, стылях, у тым ліку і ў стылі «дыска».

Калі Надзея Мікуліч рыхтавалася да ўдзелу ва Усесаюзным конкурсе артыстаў эстрады, з ёю займаўся вопытны музыкант — гітарыст Аляксандр Ляднёў.

— Мне падабаюцца творчыя пошукі Надзеі Мікуліч, — сказаў ён. — Мяне падкуплялі яе працавітасць, аптымізм і гумар, камунікабельнасць. Надзея прыносіла мне «музычную загатоўку» — мелодыю вакальнай партыі і фартэпіянны акампанемент, і пасля абмеркаванняў, спрэчак і сумесных знаходак нараджалася арыгінальнае рашэнне песні ў такім варыянце, у якім яго прадстаўляла Надзя. А затым ішла работа над інструментальным суправаджэннем. Адзначу, што Надзі аднолькава лёгка даюцца розныя выканаўчыя манеры. Паклоннікі яе таленту маглі б зрабіць адкрыццё для сябе, калі б пачулі, як яна спявае джаз. Надзея вельмі тонка адчувае характар гэтай музыкі, валодае імправізацыяй.

З А. Ляднёвым Надзея Мікуліч часта выступае з канцэртнымі праграмамі, запісвае перадачы на тэлебачанні. Такое плённае супрацоўніцтва з вядомым прафесіяналам наводзіць Н. Мікуліч на думку аб стварэнні блізкай па духу і выканаўчай манеры інструментальнай акампануючай групы. Пакуль гэта перспектывы на будучыню, а цяпер артыстка рыхтуецца да чарговых сустрэч са слухачамі, заканчвае работу над праграмай для летніх гастроляў па Украіне. Нядаўняй удачай Н. Мікуліч было «адкрыццё» песні І. Кузнякова «Прызнанне» на вершы беларускай паэтэсы Н. Тулупавай. Тут яна выказала і сваю любоў, вернасць роднай Беларусі:

**Без цябе, маё поле,**
**я не колас жытнёвы.**
**Без цябе не знайсці мне**
**запаветнага слова.**
**Ты ж мяне нарадзіла**
**аж пад небам кружыць:**
**Без цябе мне, Радзіма,**
**і не пець, і не жыць.**
**Без цябе, маё неба,**
**я і сокал не сокал,**
**Без цябе, маё неба,**
**мне не лётаць высока,**
**Без цябе мне, Радзіма,**
**толькі крылы зламаць,**
**Без цябе мне, Радзіма,**
**і не пець, і не жыць.**

Сіла творчасці Надзеі Мікуліч заключаецца ў тым, што яна, добра ведаючы музычны фальклор, сучасныя тэндэнцыі развіцця музычнага мастацтва, папулярную песенную лірыку, шукае менавіта свае песні.

**Аляксандр КАРАЦЕЕЎ.**

**НА ЗДЫМКУ: спявачка Надзея МІКУЛІЧ.**

---

*З НОВЫХ ВЕРШАЎ*

**Алесь РАЗАНАЎ**

## ПУНКЦІРЫ

* * *

У лесе пахмурным
бярозы —
белыя палянянкі.

* * *

Ёсць лепшыя за мяне,
ёсць горшыя,
але сам я
не лепшы, не горшы —
адзіны,
угледзьцеся...—
чалавек
моўчкі кажа людзям.

* * *

Той абруч,
якім сашчапілі дрэва,
што раскалолася ад цяжару ўраджаю,
увайшоў у сярэдзіну дрэва,
карой зацягнуўся,
стаў дрэвам самім.

* * *

Пад шэрым небам
між шэрых палёў —
зялёны агонь надзеі:
палетак руні.

* * *

Калі прыходжу на раздарожжа
і чытаю на камені
надпісы-перасцярогі —
разумею,
што чалавеку нічога не застаецца,
як, зрэшты, выбраць
тую дарогу, якая яго спакон веку чакае, —
дарогу ўгору.

* * *

Дзіця вучыцца вымаўляць
свае першыя словы.
Дарослыя слухаюць:
раптам яно скажа тое,
чаго яны ўжо не могуць сказаць.

* * *

Сосны ўзышлі
на самы высокі ўзгорак.
Стаяць, развažаюць:
куды далей!

* * *

Той крок,
які я не здолеў ступіць напрасткі,
ператвараецца ў мноства крокаў
па крузе.

* * *

Каменьчыкі ў ручаі.
Людзі не могуць узяць з сабою ручай —
бяруць з сабой
каменьчыкі.

* * *

Чакайце, птушкі,
чакайце, дрэвы,
чакай, зямля, —
куды вы без чалавека!!

---

## ФІРМА «МЕЛОДИЯ» Ў ПОЛАЦКУ

У дні першага фестывалю старадаўняй і сучаснай камернай музыкі цяжка было трапіць у канцэртную залу полацкай Сафіі. Калектывы пад кіраўніцтвам Генадзя Раждзественскага і Валерыя Палянскага, талінскі камерны хор і мінскі камерны аркестр выступалі з нязменным аншлагам. Прадоўжыць сустрэчы з прыгожым аматарам мастацтва дапамогуць спецыялісты фірмы «Мелодия», якія запісалі практычна ўсе прадстаўленыя на фестывалі творы.

— Наш прыезд у Полацк не выпадковы, — расказвае галоўны гукарэжысёр усесаюзнай студыі грамзапісу Ігар Ветрынцаў. — «Мелодия», не маючы пакуль уласнай студыі, вядзе пастаянны пошук памяшканняў з добрай акустыкай. Сафійскі сабор «адкрыў» для нас Алег Янчанка, які праводзіў тут першыя арганныя канцэрты. Зала полацкай Сафіі — гэта сапраўдны акустычны цуд, роўнага якому ў краіне няма. Мае значэнне і аддаленасць сабора ад цэнтра нязмушнага самога па сабе Полацка. Вось у такіх ідэальных умовах мы з кіраўніком Дзяржаўнага камернага хору Міністэрства культуры СССР Валерыем Палянскім пачалі работу па запісу ўсіх 35 канцэртаў рускага кампазітара XVIII стагоддзя Дзмітрыя Бартнянскага. Першая серыя пласцінак з яго музыкай была выпушчана спецыяльным выданнем да 1125-годдзя старажытнага Полацка.

Калі год назад «Саюзканцэрт» і Міністэрства культуры СССР зацвердзілі праграму фестывалю, мы вырашылі: едзем з Масквы за песнямі. Чаканні апраўдаліся: запісаны багаты матэрыял для новай пласцінкі, якая так і будзе называцца — «Полацкі фестываль старадаўняй і сучаснай камернай музыкі».

**А. ВАЛЬВАЧОЎ.**

*ЦІКАВА ВЕДАЦЬ*

# «ЖЫВЫЯ БАРОМЕТРЫ»

Хто не жадае даведацца пра надвор'е наперад?! І часта не проста з цікаўнасці. Гаспадарчая дзейнасць чалавека ў многім залежыць ад «капрызаў» надвор'я. Аб важнасці прадказання яго добра сказаў вялікі рускі вучоны М. Ламаносаў яшчэ 250 год назад: «Чалавеку нічога не заставалася б патрабаваць ад бога, калі б ён навучыўся прадказваць надвор'е».

На жаль, «багі надвор'я» — метэаролагі не заўсёды бываюць дакладнымі, а іншы раз справа не абыходзіцца і без кур'ёзаў.

У той жа час неацэнную дапамогу ў гэтым могуць аказаць многія жывёлы, якіх мы добра ведаем, а вось аб іх дзіўных здольнасцях часам і не здагадваемся. Жывёлы востра адчуваюць набліжэнне змянення надвор'я і неадкладна рэагуюць на яго сваімі паводзінамі.

Возьмем, напрыклад, звычайнага ўюна — невялікую рыбку з нашых вадаёмаў. Пасадзіце яе ў акварыум, і... гатовы самы лепшы «барометр». Пры набліжэнні моцнай навальніцы рыбка будзе мітусіцца і ўсплываць да паверхні па дзесяць-пятнаццаць разоў на працягу адной мінуты, а перад ясным надвор'ем заляжа на дно і нават не паварушыцца.

З уюном можа пасапернічаць жаба. Гучнае кваканне сярод дня — верная прыкмета чакаемай непагадзі, доўгае вячэрняе кваканне, наадварот, абяцае добрае надвор'е. Калі жабы маўчаць — чакаецца пахаладанне. Паспрабуйце зрабіць маленькую драўляную лесвічку, апусціць яе ў шкляны слоік і туды ж пусціць азёрную жабу. Такі «жывы барометр» раней шырока выкарыстоўвалі на Русі. Напярэдадні пераменнага надвор'я жаба будзе сядзець на дне, калі яна падымецца па лесвіцы ўверх — чакайце дрэннага надвор'я, а пастаянна знаходзіцца на паверхні — будзе сонечна, цёпла і суха. Гарантыя дакладнасці пры гэтым даволі высокая — 90-95 працэнтаў.

Уюнам і жабам не ўступаюць балотныя п'яўкі. У добрае надвор'е, калі не чакаецца яго рэзкіх перамен, п'яўкі спакойна поўзаюць па дне вадаёма, каменнях, прыдонных частках воднай расліннасці. Але калі яны пачалі вылазіць па сцяблах і кустах да самай паверхні вады — у бліжэйшы час чакайце навальніцы. П'яўка можа ўказаць і на чакаемыя змяненні тэмпературы: калі ў руху і ў спакої п'яўка выцягнутая — пахаладання не будзе, а калі сціскаецца камячком — тэмпература хутка панізіцца.

За паўдня, а то і за суткі адчувае набліжэнне дажджу невялікая птушачка нашых лясоў — берасцянка і няспынна апавяшчае тады аб гэтым усю акругу сваёй звонкай песенькай: «фіць... ф'ю-ф'ю-ф'ю! фіць... ф'ю-ф'ю-ф'ю!...»

Частым і доўгім кукаваннем указвае на ўстанаўленне цёплых дзён і спыненне ранішніх замаразкаў зязюля.

Ніколі не падманваюць у прадказанні стрыжы. Здараецца назіраць: птушкі, якія толькі што весяліліся ў паветры, раптам увогуле знікаюць. Значыць, у гэтым месцы чакаецца моцная непагадзь. Стрыжы, выдатныя летуны, паспяваюць да гэтага часу апынуцца за сотні кіламетраў і перачакаць непагадзь у раёнах з цёплым надвор'ем.

У хатніх умова[х] прадказанні надвор'я мож[а] дамагчы самая звычайная кошка. Калі яна ляжыць, скурчыўшыся клубочкам, чакаюцца моцныя маразы; ходзіць, пацягваючыся і трымаючы цела дугой, будзе пацяпленне, [калі] на ліжа поўсць — да непаг[адзі], скрабе кіпцюрамі — будзе шквальны вецер.

**В. СТОМА,**
**біёлаг.**




**На многіх прадпрыемствах Мінска ёсць свае самадзейныя духавыя аркестры. Але іх ніколі не пераблытаеш адзін з адным. Адрозніваюцца яны не толькі касцюмамі музыкантаў, але і рэпертуарам. Агульнае ж у іх — высокае выканаўчае майстэрства. Нездарма многія калектывы не раз станавіліся пераможцамі і прызёрамі ўсесаюзных конкурсаў, ім прысвоены ганаровыя званні народных. Гэта самадзейныя духавыя аркестры вытворчых аб'яднанняў імя Леніна, «Гарызонт», «Інтэграл», якія з'яўляюцца пастаяннымі ўдзельнікамі свят духавой музыкі. Сёлета ж на такое свята, якое праходзіла ў рамках III Усесаюзнага фестывалю народнай творчасці, у Мінск прыехалі і дзіцячыя самадзейныя калектывы з усіх абласцей рэспублікі. Урачыстым маршпарадам прайшлі юныя музыканты па Ленінскаму праспекту міма ветэранаў вайны, выконвалі ў іх гонар мелодыі ваенных гадоў: «Кацюшу», «Агеньчык», «Зямлянку»...**

**Цікава паслухаць меркаванне пра выступленне дзіцячых самадзейных калектываў галоўнага дырыжора свята, народнага артыста БССР, прафесара Белдзяржкансерваторыі імя Луначарскага Барыса Пенчука: «Такога свята ў нас у рэспубліцы не было ўжо больш як дзесяць год. Гэта цудоўна, што цікавасць да яго абудзілася ў дзяцей. А што тычыцца іх выканаўчага майстэрства, то, мяркую, яно спадабалася мінчанам. Юныя музыканты стараліся не ўступіць дарослым». Тысячы мінчан горача віталі маладых трубачоў.**

**Фота А. БАСАВА.**



*У ВАШУ КАЛЕКЦЫЮ*

# У МАЛОЙ МАРЦЫ ВЯЛІКАЯ ПАЛІТЫКА

Нядаўна пошта нашай краіны выпусціла дзве маркі, прысвечаныя савецка-амерыканскім міждзяржаўным адносінам. Гэтыя мініяцюры маюць адзін агульны элемент: дзяржаўныя флагі СССР і ЗША. Першая марка выйшла ў свет праз некалькі дзён пасля падпісання ў Вашынгтоне Генеральным сакратаром ЦК КПСС М. С. Гарбачовым і прэзідэнтам ЗША Р. Рэйганам Дагавора аб ліквідацыі ракет сярэдняй і меншай дальнасці (8 снежня 1987 года). На рысунку маркі — будынак Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР і будынак Белага дома ў Вашынгтоне, флагі дзвюх краін. Тэкст маркі: «Дагавор аб ліквідацыі савецкіх і амерыканскіх ракет сярэдняй і меншай дальнасці — першы крок на шляху да бяз'ядзернага свету. Снежань. 1987». Выхад падобнай маркі — з'ява незвычайная, таму што дагавор, якому яна прысвечана, яшчэ не ўступіў у сілу. Аднак з'яўленне такой паштовай мініяцюры — яшчэ адно праяўленне веры нашай краіны ў чалавечы розум, у магчымасць усім дзяржавам жыць у міры без смяротнаснай ядзернай зброі.

Другая марка выйшла ў канцы студзеня і прысвечана 30-годдзю пагаднення паміж СССР і ЗША ў галіне культуры, тэхнікі і адукацыі (1958—1988).

Да гэтых дзвюх паштовых мініяцюр былі падрыхтаваны спецыяльныя штэмпелі і канверты «Першы дзень».

А калі ж з'явілася першая паштовая марка, на якой былі паказаны дзяржаўныя флагі СССР і ЗША? Для гэтага трэба вярнуцца амаль на паўстагоддзя назад. У лістападзе 1943 года савецкая пошта выпусціла дзве паштовыя мініяцюры вартасцю 30 капеек і 3 рублі, на якіх былі паказаны дзяржаўныя флагі СССР, ЗША і Вялікабрытаніі. Гэты выпуск быў прысвечаны Тэгеранскай канферэнцыі (28 лістапада — 1 снежня 1943 года) кіраўнікоў урадаў трох вялікіх дзяржаў. На мініяцюрах быў даны тэкст у гонар савецка-англа-амерыканскага баявога саюза.

У чэрвені 1944 года ў нашай краіне зноў выходзіць серыя паштовых марак з дзяржаўнымі флагамі СССР, ЗША і Вялікабрытаніі. Яна была выпушчана ў гонар Дня Аб'яднаных Нацый.

У даваенныя гады ў савецкай філатэліі быў адлюстраваны ўдзел нашай краіны ў міжнароднай выстаўцы ў Нью-Йорку ў 1939 годзе. На марках адлюстраваны будынак павільёна СССР і фігура рабочага з зоркай — скульптура на вежы павільёна. Праз 20 год Савецкі Саюз паказаў на выстаўцы ў Нью-Йорку дасягненні айчыннай навукі, культуры і тэхнікі. Да гэтай выстаўкі (1959 год) былі выдадзены марка і паштовы блок, у малюнку якіх — эмблема выстаўкі, Спаская вежа Маскоўскага крамля, абеліск у гонар пакарыцеляў космасу і будынак Калізея ў Нью-Йорку, дзе праходзіла выстаўка.

Дружалюбныя візіты кіраўнікоў Савецкай дзяржавы ў ЗША ў 1959 і 1973 гадах таксама адлюстраваны на паштовых марках СССР.

У 1975 годзе адбыўся сумесны эксперыментальны палёт савецкага касмічнага карабля «Саюз-19» і амерыканскага «Апалон». Гэтай вялікай падзеі ў мірным асваенні космасу савецкая пошта прысвяціла чатыры маркі і блок. На адной з іх дзяржаўныя флагі СССР і ЗША і партрэты касманаўтаў — савецкіх А. Ляонава і В. Кубасава і амерыканскіх — Т. Стафарда, В. Бранда і Д. Слейтана.

У альбомах савецкіх філатэлістаў захоўваюцца і некаторыя іншыя паштовыя выпускі, якія адлюстроўваюць дружалюбныя адносіны паміж народамі СССР і ЗША.

**Леў КОЛАСАЎ.**

# КНІГІ-ЛАЎРЭАТЫ

У Маскве падведзены вынікі дваццаць дзевятага Усесаюзнага конкурсу «Мастацтва кнігі-88». Ад выдавецтваў краіны на конкурс было прадстаўлена звыш тысячы назваў кніг і альбомаў. Ад Беларускай ССР ва ўсесаюзным форуме прынялі ўдзел усе дзесяць выдавецтваў.

Па ўмовах конкурсу дыпламавана 100 выданняў. Сем узнагарод з гэтай колькасці атрымалі кнігавыдаўцы нашай рэспублікі.

Дыплома першай ступені ўдастоена кніга Паўленкі «Гісторыя пісьма» (выдавецтва «Вышэйшая школа», мастак Уладзімір Шолк, надрукавана на паліграфкамбінаце імя Якуба Коласа).

Дзве кнігі адзначаны дыпломамі другой ступені. Гэта падручнік для другога класа «Беларуская мова» (выдавецтва «Народная асвета», мастак Уладзімір Пашчасцеў) і зборнік «Таджыкскія народныя казкі» (выдавецтва «Юнацтва», мастак Ірына Лобан).

Дыпломамі трэцяй ступені ўзнагароджаны кнігі: У. І. Ленін «Да гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі» (выдавецтва «Беларусь»), В. Адамчык «І скажа той, хто народзіцца» (выдавецтва «Мастацкая літаратура»), зборнік «Жыў на свеце Дзівак» (выдавецтва «Юнацтва») і кнігадаведнік Пратасава «Пустазелле і меры барацьбы з ім» (выдавецтва «Ураджай»).

**Галіна ДЗІВІНА.**

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

**НАШ АДРАС:**
**МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.**
**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 831